# Зь Беларускага Жыцьця

## ПЕРАМОГА ЗА НАМІ

**(Ад собскага карэспандэнта з Мэнхэгофу)**

Выступленьне Болдырава ў Амэрыцы прыпомніла лішні раз жыхаром лягеру Мэнхэгоф гэтага расейскага авантурніка, які ў сваім часе арганізаваў «трудовой лагерь» у Мэнхэгофе, дзе быў заведзены бальшавіцкі прыгон, паліцыйны тэрор і бюрократыя, а ў нацыянальным сэнсе расейская «ураўнілаўка» згодна слоў «кітайцы — те-ж русскіе, только окітайченые».

Хто такі Болдыраў і што такое прадстаўляе партыя НТС ці інакш салідарыстыя, старыя жыхары лягеру балюча перакаваліся на сваёй скуры. Сэнсацыяй для іх ёсьць толькі тое, што быццам НТС існуе ўжо 18 гадоў, ды ў прыдатак кіруе рэвалюцыйным рухам у Расеі. Бальшыня людзей даведалася аб існаваньні салідарыстых толькі на эміграцыі, або толькі ў лягеры Мэнхэгоф, які ў свой час быў гняздом тэтых белых бальшавікоў. Чалавек, які пазнаёміцца з праграмай салідарыстых, інакш іх не ахрысьціць, як толькі гэтымі словамі.

Салідарыстыя зарганізавалі сваю НТС на эміграцыі (перадусім у Югаславіі) ў часе і на ўзор модных тады таталітарных рухаў: фашызму, гітлерызму і іншых ізмаў. Цяпер, ня гледзячы на тое, што яны аджылі свой век і ўвесь сьвет з жахам і ненавісьцю адносіцца да усякіх таталітарызмаў, рыхтуючыся зьліквідаваць апошні чырвоны таталітарызм, як крыніцу найгоршае тыраніі, салідарыстыя ня толькі не перагледзелі свае праграмы і не разьвязаліся, а наадварот — стараюцца і надалей муціць мазгі сваёй таталітарнай праграмай. А гэта таму, што яны — чыста эміграцкі вытвар, ня маюць ніякага апірышча на бацькаўшчыне і ня здолеюць здабыць яго дэмакратычным спосабам сярод масаў новае расейскае эміграцыі. Яны думаюць старымі белагвардзейскімі катэгорыямі, ня здольныя зразумець духу часу і прадстаўляюць зь сябе сапраўдныя «музейные древності».

Разважаючы праграму салідарыстых, адзін польскі публіцысты правільна рэзюмуе: «Гэткая будоўля мусіць сваёй канструкцыяй мала што зацікавіць, але проста занепакоіць нятолькі народы, уваходзячыя ў склад сучаснай «чырвонай імпэрыі», нятолькі народы «сатэлітныя», але перадусім увесь Захад. Бо зьдзейсьненьне гэтай канцэпцыі бяз погляду на час выкананьня, зьменіць толькі назоў і можа коляр шыльды, але не адхіліць зусім пагрозы, гадаванай на Крамлі ад шмат пакаленьняў, заўсёды прагавітага, заўсёды кансэквэнтнага і заўсёды ненасытнага захопніцтва» (Т. Конашэвіч у «ДП Экспрэсе» № 14 з 17.4.1948).

Беларусы першыя перакаваді жыхароў лягеру Мэхэнгоф, што салідаррыстыя, як і ўсякія іншыя бальшавікі, не прадстаўляюць зь сябе сапраўднае сілы, бо не абапіраюцца на народнай волі, а кіруюцца выключна гвалтам, нахабствам і ашуканствам. У лягеры Мэхэгоф яны ніколі ня мелі больш за пару дзесяткаў сяброў сваей партыі, але прадстаўлялі да часу зьяўленьня беларусаў адзіную зарганізаваную групу, якая ад пачатку захапіла ў свае рукі адміністрацыйны апарат. Беручы пад увагу бясхрыбетнасьць наяўнае тут інтэлігэнцыі й запалоханасьць простых людзей, у бальшыні сваёй уцёкшых з «чырвонага раю», стане ясным, чаму салідарыстыя маглі так доўга, бо аж да сёлетніх лягерных выбараў, утрымоўвацца пры ўладзе. Беларусы першыя нанесьлі рашучы ўдар на салідарыстых падчас лягерных выбараў у канцы леташняга году. Тады, зь ініцыятывы беларусаў паўстаў ў лягеры Міжнацыянальны Выбарны Блёк, у які ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх большых нацыянальных групаў лягеру, як: беларусаў, расейцаў, украінцаў і палякаў. Улічваючы свой правал, салідарыстыя зацягнулі выбары на некалькі месяцаў, каб у міжчасе пазбыцца зь лягеру палякаў і аслабіць найсільнейшую ў арганізацыйным і ідэёвым сэнсе беларускую групу. Нажаль, знайшлося сярод беларусаў некалькі прадажных адзінак, якія пайшлі на ўслугі салідарыстых і зламалі супольны антысалідарысцкі фронт. Карыстаючы з гэтага, салідарыстыя, як рыба, якая з галавы гніе, але хвастом яшчэ боўтае, пачалі тарнаваць тэрор. Беларусам адабралі памешканьне для школы і дзяцячага садка, пазбавілі беларускіх вучыцялёў дадатковых рацыёнаў і г. д. Гэта аднак беларусаў не запалохала. Школьны год, хоць і зь цяжкасьцямі, быў закончаны і беларусы ўтрымалі сваю незалежную пазыцыю ў лягеры.

Між іншым трэба адцеміць намаганьні салідарыстых абдурыць і зьвесьці зь незалежніцкага шляху беларускую моладзь, якую замаскованае салідарысцкае кіраўніцтва мясцовай ІМКА старалася ў свой час прыцягнуць да сябе і з гэтай мэтай пачало нат выдаваць раатарны часапіс «Единство», дзе зьмяшчаліся літаратурныя перадрукі зь беларускіх газэт. Нахабства салідарыстых дайшло да таго, што кіраўнік тутэйшых «российскіх разведчіков» — салідарысты Полчанінов пачаў забіраць сабе пошту, кірованую на адрас Беларускіх Скаўтаў у Мэнхэгофе, тлумачучыся тым, што сярод ягоных «разведчіков», якіх клічам ёсьць: «Будь готов за Россію», быццам знаходзяцца й беларусы.

Апошнім трыкам салідарыстых было зарганізаваньне імі г. зв. Беларускага Дэмакратычнага Камітэту, які зь першых дзён цярпеў на малакроўе, а цяпер зусім разваліўся, бо нялічныя беларусы, якія туды ўпісаліся, цяпер ад яго адыйшлі, а расейцы, якія былі на яго чале, уступілі як адзін у «Комітет Россійской Эміграціі в Касселе і Менхегофе».

Ня гледзячы на ўсе свае натугі, разваліць беларускае грамадзтва ў Мэнхэгофе салідарыстым не ўдалося. Беларуская школа ў лягеры Мэнхэгоф працуе сёлета ад пачатку школьнага году і, хоць із спазьненьнем, але атрымала назад сваё леташняе памешканьне ад новага кіраўніцтва лягеру. Дня 28 лістапада сёлета Беларускі Камітэт зладзіў урачыстае сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня. Была адслужана паніхіда ў лягернай царкве, а ўвечары прачытаны прынагодны рэфэрат. Непадкупныя і поўныя годнасьці паводзіны арганізованага беларускага грамадзтва заваявалі яму сымпатыі сярод іншых жыхароў лягеру, а нясьведамыя ці запалоханыя дагэтуль беларусы што-раз часьцей зьвяртаюцца ў Беларускі Камітэт за парадай і падтрымкай.

**Ч.**

### МЮНХЭНСКІЯ СТУДЭНТЫ НА СТАРОЖЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДЗІНСТВА

Ад часу зачыненьня ўнівэрсытэту — УНРРА Мюнхенскае Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне вядзе цяжкае існаваньне. Недахоп собскага памешканьня, вялікая расьцярушанасьць студэнтаў і выключна цяжкія матарыяльныя абставіны жыцьця ставяць арганізацыю перад цяжкім выпрабаваньнем. Гэтае крытычнае становішча БСЗ — Мюнхэн пастанавілі выкарыстаць некалькі «палітыкантаў», каб уцягнуць студэнтаў ў цёмную палітычную работу й упрагчы арганізацыю ў чужыя аглоблі. Гора-палітыкі гэтыя павялі ліхарадкавую кампанію за «пераняцьце ўлады» ў БСЗ, пасунуўшыся аж да ўкладаньня лісты «новага ўраду»... Але беларускае студэнцтва аказалася дастаткова выробленым, каб вычуць ува ўсім гэтым скрытую разбуральную акцыю з пад вядомага знаку.

На гадавым звычайным сходзе Згуртаваньня 11 сьнежаня сёлета сяброўкі й сябры далі станоўкі адпор ганебным спробам разьбіцьця адзінства нашае студэнцкае грамады, якая ў цяжкім змаганьні зь лёсам стаіць непахісна на беларускіх нацыянальна-адраджэнскіх пазыцыях і гэтым кантынуе традыцыі беларускага студэнцтва, якое з самага пачатку нашага адраджэньня было ягоным авангардам і кузьняю маладых нацыянальна-дынамічных кадраў руху.

За старшыню БСЗ быў перавыбраны дасюлешні старшыня А. Бяленіс. Былі прынятыя ў арганізацыю новыя беларускія студэнты й адкінуты заявы тых студэнтаў, якія, належачы да чужанацыянальных акадэміцкіх арганізацыяў, зажадалі ўступіць ў БСЗ зь відавочнай мэтай падтрымліваньня палітычна-дывэрсыйнай акцыі сярод студэнцтва.

На сходзе прысутнічалі два прадстаўнікі ўраду Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на чужыне. Адзін зь іх, старшыня Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду др. Г. даў прысутным кароткую інфармацыю аб важнай ў сяньняшні крытычны час дапамаговай дзейнасьці ССФ.

**П. Лубяга.**

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ ВОЛЬНЫХ СТУДЭНТАЎ СУПРАЦЬ ЧЫРВОНАГА ТЭРОРУ

17 лістапада сёлета адбыўся ў Лёндане вялікі мітынг вольных студэнтаў паняволеных бальшавізмам народаў. Мітынг быў наладжаны чэскай студэнцкай арганізацыяй у сувязі з прыпадаючай на гэты дзен гадавінаю сьмерці 9-ці чэскіх студэнтаў падчас заняцьця Чэхаславаччыны Гітлерам. Апрача чэхаў у мітынгу прынялі ўдзел прадстаўнікі студэнтаў наступных нацыянальнасьцяў: альбанскай, беларускай, эстонскай, харвацкай, летувіскай, латыскай, польскай, румынскай, сэрбскай, славацкай, славэнскай, украінскай, мадзярскай.

На мітынгу сказала вялікую прамову княгіня Атоль — кіраўнічка Ангельскай Лігі для захаваньня эўрапэйскай вольнасьці й рэпрэзэнтантка ангельскіх студэнцкіх арганізацыяў. Яна падкрэсьліла супольнасьць ідэалаў вольнасьці паміж народамі, зьвяртаючы ўвагу на тую небясьпеку, загражаючую вольнасьці, якую прадстаўляе сабою камуністычны таталітарызм. Потым яна выказала патрэбу актыўнасьці замежных студэнтаў у дапамозе ангельцам супраціўстаўляцца камуністычнай акцыі. Прадстаўнік Чэскай Нацыянальнай Рады ген. Прхаля ўспомніў аб капітуляцыі чэскага ўраду перад нямецкай агрэсыяй. Акт 9-цёх чэскіх студэнтаў прадставіў як прыклад волі ўсяго народу, ня гледзячы на капітуляцыйную палітыку свайго ўраду.

Беларусаў рэпрэзэнтавала на мітынгу мясцовая група Беларускага Хрысьціянскага Акадэміцкага Аб'яднаньня «Жыцьцё». Ад імя беларускіх студэнтаў меў прамову сп. Я. Амор, які коратка насьветліў прабег змаганьня беларускага народу за сваю свабоду. Характарызуючы бальшавізм, як найбольшага ворага беларускага народу, ён выказаў бальшавіцкія акты тэрору ў нішчэньні беларускае інтэлігенцыі. Ён выказаў спачуваньне беларускіх студэнтаў для змаганьня чэхаў за сваю вольнасьць. «Чэскае змаганьне за вольнасьць зьяўляецца вельмі блізкае сэрцу беларусаў, так як многія нашыя правадыры знаходзілі ў Празе палітычны азыль ад перасьледваньняў так у Ўсходняй Беларусі, як і ў Заходняй, а нашыя студэнты здабывалі там навуку й атрымлівалі матарыяльную помач»... У далейшым ён прадставіў трагэдыю Беларусі ў часы масавага нішчэньня бальшавікамі беларускага народу. Прэлегэнт зьвярнуў увагу на стойкасьць беларускага незалежніцкага руху й ягоную сучасную актыўнасьць на эміграцыі. Ён закончыў славамі: «Мы, рэпрэзэнтанты вольнага маладога беларускага пакаленьня, далей прадаўжаем сьвятую для нашага краю справу змаганьня за незалежнасьць, за якую гінулі тысячы нашых патрыётаў. Супольна з заходнімі дэмакратыямі й іншымі, паняволенымі чырвоным таталітарызмам народамі сярэдняй і ўсходняй Эўропы мы, беларусы, высака нясём сьцяг змаганьня за вольнасьць і дэмакратыю».

Ангельская й іншыя прэсы пасьвяцілі на сваіх балонах шмат месца гэтаму мітынгу, а радыё ВВС, цытуючы некаторыя прамовы, гадавіну сьмерці 9-ёх чэскіх студэнтаў прадставіла, як Дзень Студэнта, у якім прадстаўнікі моладзі паняволеных народаў горача дэманстравалі сваю волю і гатовасьць змагацца супраць таталітарнага гвалту.

**(З часапісу «Беларус на Чужыне).**

### ПРА ДОЛЮ АДЗІНОТНЫХ НА ЭМІГРАЦЫІ

Дзяцюкі (знач. нежанатыя) і дзяўчаты, што, здавалася-б найшчасьліўшыя з паміж высяленцаў, бо лёгка могуць эміграваць, аказуюцца ў небясьпечнасьці. Калі яны выедуць із сваіх асяродкаў у Нямеччыне нежанатымі або незамужнімі, дык у новых краёх асяленьня або наагул ня змогуць пабрацца, і ім будзе пагражаць дэмаралізацыя, або пабяруцца з чужнікамі, і чакае такіх звычайна няшчасная доля: у вабодвых прыпадках такая моладзь зьгіне для свайго народу. Дзеля таго трэба зрабіць усё чыста, каб пабрацца із сваймі яшчэ перад эміграваньнем тут у Нямеччыне. Калі зьвернем увагу, што ў нас дзяўчат шмат меней, як дзяцюкоў, дык асабліва шкада, калі хоць адна дзяўчына будзе страчана менаваным парадкам.

У ўкраінцаў паўстала вельмі паважная арганізацыя, складзеная з прадстаўнікоў цэнтральных украінскіх арганізацыяў і прадстаўнікоў абедзьвюх — праваслаўнай і вуніяцкай украінскіх цэркваў, заданьні якой гэткія: а) усьведамляць украінскае грамадзтва пра значаньне сям'і у ўмовах эміграцыі, як дзеля жыцьця асабістага, так і дзеля народу; б) прапагаваць захаваньне ўкраінскага характару сям'і, пабудаванай на прынцыпах хрысціянскай маральнасьці й этыкі; в) выясьняць адзінотным цяжкасьці закладаньня ўкраінскіх сем'яў у эміграцыйным расьцярушаньні; г) агітаваць за ажаненьне і выхад замуж перад выездам на месца новага асяленьня; д) прыяць і памагаць пабраньню паміж сваймі.

З прыемнасьцю мусім адзначыць, што гэткае пастаўленьне справы сярод украінскае эміграцыі сьветчыць пра яе грамадзка-нацыянальную сьпеласьць.

Вылічаныя патрэбы ўкраінскія ў большай меры могуць быць прытарнаваныя да нас беларусаў. Дзеля таго мы павінны на іх зьвярнуць вялікую ўвагу.

**Я. Ст.**

### ВЫЯСЬНЕНЬНЕ РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя роўна перад двумя тыднямі атрымала ад каменданта беларускага лягеру АБЦ у Ватэнштэце (ангельская зона) С. Каўша спраставаньне на надрукованую ў № 38(41) за 28.11.48 г. «Бацькаўшчыны» карэспандэнцыю з Ватэнштэту «Як загінуў Ільяшэвіч?» з дамаганьнем надрукаваньня яе ў найбліжэйшым нумары нашае газэты пад пагрозаю скіраваньня справы ў суд. Перад тым аднак, чымсьці гэтае спраставаньне надрукаваць, копія яго была намі перасланая аўтарытэтным беларусам у Ватэнштэце з просьбаю праверкі праўдзівасьці пададзеных ў ім фактаў. Адказ на гэта мы атрымалі перад пару днямі, зь якога выясьнілася, што некаторыя факты, пададзеныя ў карэспандэнцыі, былі няпраўдзівымі, але й некаторыя факты, пададзеныя ў спраставаньні Каўша, былі таксама фальшывыя. Ня гледзячы аднак на гэта, спраставаньне Каўша мела быць надрукаванае ўжо ў гэтым нумары «Бацькаўшчыны». Тымчасам сяньня мы даведаліся, што гэтае сваё спраставаньне, з даданьнем да яго ўсякай непрызваітай лаянкі, Коўш размножыў на рататары й разаслаў па ўсей Нямеччыне. У сувязі з гэтым друкаваць ягонае спраставаньне ўважаем ужо за непатрэбнае, так як, не чакаючы на надрукаваньне яго ў газэце й не пастараўшыся выясьніць, ці будзе яно зьменшчана, ці не, выручыў нас у гэтым сам Коўш.

На закід Каўша, што надрукаваньне ўспомненай карэспандэнцыі было «спробай сьвядома апляваць імя чалавека, які ўсё сваё жыцьце служыў беларускаму народу», выясьняем, што, друкуючы гэную карэспандэнцыю, мы былі далёкімі навет ад самой думкі, каб зьняважыць памяць нябожчыка. Наадварот, мы хацелі толькі зьвярнуць увагу на тыя адносіны й умовы жыцьця ў лягеры Ватэнштэт, якія маглі стацца пасрэднай прычынай сьмерці Ільяшэвіча й згінуўшых зь ім разам іншых людзей. Свае-ж адносіны да памёршага мы выказалі ў нэкралёгу, надрукованым у № 37(40) «Бацькаўшчыны».

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ГАЛОЎНАЙ УПРАВЫ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У АРГЕНТЫНЕ

Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне ветліва паведамляе ўсіх тых, што злажылі заявы індывідуальна або запісаліся на сьпіскі, з просьбай дастаньня ім дазволу уезду ў Аргентыну, наступнае:

Аргентынскі Урад ад дня 17 верасьня 1948 году ўстрымаў часова выдачу дазволу уезду ў Аргентыну для ўсіх нацыянальнасьцяў за выключэньнем італьянцаў і гішпанцаў.

Управа ЗБА, як і другія нацыянальныя камітэты, стараецца рабіць усё магчымае, каб ізноў даставаць дазволы. Аргентынскія Эміграцыйныя Ўлады запэўняюць, што посьле Новага Году пачнуць ізноў зацьвярджаць сьпіскі, належна афармленыя й пацьверджаныя Нацыянальнымі Камітэтамі, аднак не падаюць даты распачацьця падпісваньня.

Каб паінфармаваць заінтарасаваных аб ходзе справы й каб не даваць кажнаму ў паасобку лістоўных адказаў і інфармацыяў, Галоўная Управа ЗБА падае да ведама, што:

1. Сьпісак на 31 асобу (пераважна заявы паасобныя) высланы на зацьверджаньне ў Эміграцыйнае Бюро 11.8.1948, які да сяньня там яшчэ знаходзіцца.
2. Сьпісак на 32 асобы (сьпісак лягеру Остэргофэн зацьв. БЦК 18.8.48), высланы на зацьверджаньне Управай ЗБА ў Эміграцыйнае Бюро 6.9.48, які таксама чакае зацьверджаньня.
3. Сьпісак на 195 асоб (сьпісак з лягеру Міхэльсдорф зацьв. БЦК і перасланы др. А. Орсам), высланы Управай ЗБА ў Эміграцыйнае Бюро на зацьверджаньне 4.10.1948, які спаткаў лёс папярэдніх. (Тут уключаны сьпісак з Фр. Зоны, перасланы др. Войтэнкам).

Сьпіскі, якія знаходзяцца ў канцыляріі ЗБА й ня будуць высланыя, пакуль ня будуць зацьверджаныя папярэднія:

1. Сьпісак артыстых, лягеру Міхэльсдорф на 21 асобаў, зацьверджаны БЦК у Нямеччыне дня 20.10.1948.
2. Сьпісак зь лягеру Мэнхэгоф на 25 асобаў, зацьверджаны БЦК ў Нямеччыне дня 1.10.1948.
3. Сьпісак зь лягеру Остэргофэн на 38 асобаў, зацьверджаны БЦК ў Нямеччыне 1.10.1948.
4. Дадатковы сьпісак Камітэту Вялікай Гэсыі на 20 асоб, зацьверджаны 24.10.1948 (перасланы інж. Ханяўкам).
5. Сьпісак з Аўстрыі на 24 асобы, прысланы сп. А. Кадняком з дня 4.11.1948.
6. Сьпісак з Аўстрыі на 58 асоб, зацьверджаны БЦК ў Нямеччыне дня 18.11.1948.

**Управа ЗБА.**

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Whiteruthenian Weekly „The Fatherland“**
Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration: (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian, D.P.Camp.
Licensee: Wladimir Bortnik.
Edited by: Whiteruthenian National Commitee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 8a.